Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 30 (2224)

25 ліпеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.



14 ліпеня ў Мінску адбылася падзея, на якую амал… не звярнулі ўвагі нашы дасужыя сродкі масавай інфармацыі. Адзначалася 581-я гадавіна вялікай бітвы славян з крыжакамі пры Грунвальдзе, у якой выключную ролю адыгралі нашы продкі — воіны Вялікага княства Літоўскага.
НА ЗДЫМКУ: шэсце з харугвамі з плошчы 8 Сакавіка да сквера імя Янкі Купалы.

(Заканчэнне фотарэпартажу на стар. 8).

# ЧЫМ ЗАКЛАПОЧАНЫ ПРЭМ'ЕР

Брыфінг для журналістаў, які правёў Старшыня Савета Міністраў БССР Вячаслаў Кебіч, адбыўся за нейкіх пару гадзін да яго ад'езду ў Малдову. Таму натуральна, што пасля выступлення Прэм'ера першае, чым пацікавіліся прысутныя, было: якія справы чакаюць яго ў Кішынёве.

— Мы павінны спыніць усялякія дачыненні з Грузіяй і Арменіяй, — спакойна, але цвёрда заявіў Старшыня Саўміна рэспублікі.

Гэткая рэакцыя нашага ўрада выклікана не якойсьці там нацыяналістычнай палітыкай, а тым, што гэтыя дачыненні непарытэтныя. Колькасць прадукцыі, якую пастаўляе гэтым, цяпер суверэнным дзяржавам Беларусь, у некалькі разоў перавышае наш увоз адтуль. А калі ўлічыць, што Грузія і Арменія наогул спынілі нам усялякія пастаўкі, то атрымліваецца, што мы проста аддаем сваю прадукцыю ні за што. У гэтай складанай сітуацыі нас гатова выручыць Малдова.

Над праблемамі забеспячэння рэспублікі сыравінай, матэрыяламі, таварамі першай неабходнасці і прадуктамі харчавання і ламае галаву цяпер беларускі ўрад.

— Мы знаходзімся ў вельмі дрэнных адносінах з Украінай, — з жалем канстатаваў В. Кебіч. — У апошні час Украіна перастала выконваць свае абавязацельствы па пагадненнях. Найбольш востра гэта адчуваецца ў забеспячэнні насельніцтва цукрам. Украіна не пастаўляе цукар, а той, што завозіцца з Кубы, да нас не трапляе; увесь ідзе ў Расію. У гэтай крытычнай сітуацыі ўрад шукае выйсце ў непасрэдных кантактах з Кубай. Здаецца, гэта штосьці абяцае.

Сёння, калі ў краіне, па словах Прэм'ера, ніхто, нідзе, нікім не кіруе, складваецца іншы падыход да адносін з Цэнтрам. У адрозненне ад мінулых гадоў Беларусь не мае намеру падпісваць канкрэтнае пагадненне з Цэнтрам.

— Подпіс Сілаева і Кебіча сёння нічога не дае, таму што аўтаноміі практычна не выконваюць ні адно абавязацельства. Таму мы цяпер выходзім на непасрэдныя сувязі з паасобнымі рэгіёнамі Расіі, каб задаволіць патрэбнасць сваёй рэспублікі, — такім было рэзюме Вячаслава Кебіча.

Складваецца ўражанне, што ў гэтай няпростай сітуацыі, калі былая дружба народаў выраджаецца ў нейкую пачварную аўтаркію, ці што, наш урад робіць не безнадзейныя пошукі эканамічных партнёраў, каб утрымацца над безданню. Пошукі гэтыя вядуць у пост-камуністычныя краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у Іспанію і Італію і нават у больш аддаленыя рэгіёны зямнога шара, дзе нам абяцаюць і крэдыты, і супрацоўніцтва. Відаць, іншага выйсця няма, як самім, у адзіночку, выбірацца на шчаслівы бераг рынку. Бо заклінанні Гарбачова пачакаць, не кідацца адным у плаванне, а разам выбірацца з "балота застою", не абуджаюць веры.

Старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч, пры ўсім сваім аптымізме, скептычна глядзіць на магчымасці ў хуткім часе заключыць Саюзны дагавор. Яго аргументы здаюцца пераканаўчымі.

А пакуль што трэба змагацца, каб захаваць хаця б той сацыяльны ўзровень, на якім яшчэ дасюль трымаецца Беларусь. Змагацца ў тым ліку і з Кабінетам Міністраў СССР. Насуперак яго патрабаванням, урад Беларусі адмаўляецца замарозіць да канца года ўсе сацыяльныя праграмы, рост заработнай платы і адначасова на 70-75 працэнтаў адпусціць цэны.

## «КАЛІНКА» З ГАЛАНДЫІ Ў БЕЛАРУСІ

# ЗДЗІЎЛЕННЕ, ЗАХАПЛЕННЕ, УДЗЯЧНАСЦЬ

### СУМНЫ ПАЧАТАК

Доўга раздумвала, ці варта пачынаць артыкул з сумных успамінаў. Рашыла, што варта, бо каб не было Гуга Алерса, галандца, закаханага ў славянскі свет, магло не быць і "Калінкі", не адбылася б наша сёлетняя сустр… з ёю.

... У апошн… …ень знаходжання ансамбля ў Мінску на развітальнай вечарыне па ўзмаху рукі Надзі Берфутс артысты ўсталі і заспявалі "Многая лета". Але чамусьці ў гэты самы момант горка заплакала Ант… Бергманс, схіліўшыся на … …чо дачкі, і ўсё ж, не ўстаяўшы на нагах, падтрыманая сяброўкамі, у знямозе апусцілася ў крэсла.

— Вы, мусіць, не разумееце, што тут адбываецца? — звярнулася да мяне Надзея Міцюніна. — Антэй некалькі месяцаў назад пахавала мужа. Гора яшчэ надта моцнае, ніяк не адпускае яе. Ды і мы ўсе, члены "Калінкі", смуткуем разам з ёю. А "Многая лета" ён любіў.

Гуга Алерс, муж Антэй, быў адным са стваральнікаў фальклорнага славянскага ансамбля ў Галандыі. Больш за 20 гадоў, столькі, колькі існуе "Калінка", быў яе сакратаром. Сваю любоў да ўсяго, што звязана з Расіяй, не мог і вытлумачыць, проста блізкім яму было славянскае мастацтва, славянская песня, танец. Можа, гэта покліч продкаў, можа і ў яго, як у Антэй, дзяды-прадзеды былі з усходу. Пра Антэй Бергманс я некалі пісала, што яе далёкі продак у 1714 годзе быў кур'ерам Пятра I, ездзіў з даручэннямі рускага цара. У Галандыі пакахаў дзяўчыну і застаўся там назаўсёды.

— Праз пакаленне праяўляюцца рускія рысы ў твары, абліччы дзедавых нашчадкаў, — кіўнула Антэй на сваю трошкі скуластую, даволі мажную, але па-дзявочы прывабную дачку. — У нашай сям'і заўсёды жыла і жыве любоў да ўсяго славянскага. Так і лічым, што карані нашы недзе тут...

Любоў гэта аб'яднала Гуга і Антэй, калі яны, сустрэўшыся ў "Калінцы", ужо немаладымі людзьмі, стварылі шчаслівую сям'ю.

Антэй у ансамблі спявае і шые касцюмы. Робіць яна гэта надзвычай прафесійна, з любоўю да справы. Калі на яе абрынулася гора, паспрабавалі перадаць яе абавязкі некаму іншаму. На жаль, не атрымалася. Антэй пакуль што

(Заканчэнне на 7-й стар.).



"Калінка" на Купаллі.

ЗВАРОТ

## РАЗЛІЧВАЕМ НА МІЛАСЭРНАСЦЬ

Вярхоўны Савет Беларускай ССР звярнуўся да Еўрапейскага Парламента з просьбай аб аказанні дадатковай прамой або па іншаму ўзгодненаму механізму спецыяльнай фінансава-тэхнічнай і іншай дапамогі ў вырашэнні паслячарнобыльскіх праблем у нашай рэспубліцы...

На тэрыторыю Беларускай ССР, гаворыцца ў Звароце, выпала 70 працэнтаў доўгажывучых ізатопаў, імі забруджана каля 20 працэнтаў усіх сельгасугоддзяў і лясоў — чацвёртая частка ўсёй рэспублікі. На забруджаных тэрыторыях пражывае звыш 2,2 мільёна чалавек — гэта кожны пяты жыхар рэспублікі або палавіна пацярпеўшага ад чарнобыльскай катастрофы насельніцтва Беларусі, Украіны і Расіі.

Захоўваецца няпэўнасць у ацэнцы ўрону, нанесенага здароўю насельніцтва з прычыны "ёднага ўдару" і ўздзеяння іншых кароткажывучых ізатопаў у першыя некалькі дзён пасля аварыі, дакладна зафіксаваць якія не ўдалося. Нягледзячы на розніцу ў ацэнках радыелагічных вынікаў і абаронных мер, Міжнародным чарнобыльскім праектам устаноўлена, што комплекснае ўздзеянне розных неспрыяльных фактараў прывяло да дакладна зарэгістраванага росту захворвання жыхароў пацярпеўшых раёнаў рэспублікі. Міжнародны Кансультатыўны камітэт рэкамендуе распачаць энергічныя дзеянні з мэтай павышэння якасці медыцынскага абслугоўвання, карэннага паляпшэння ў забеспячэнні медыкаментамі, дыягнастычным і доследным абсталяваннем, матэрыяламі.

НА ГРАНІЦЫ

## СУПРАЦЬ КАНТРАБАНДЫ

Кожны месяц усходнюю граніцу Польшчы перасякае ад 600 да 700 тысяч чалавек, аднак супрацоўніцтва польскіх і савецкіх таможных службаў жадае быць лепшым. У той жа час там нарастаюць крымінальныя з'явы, асабліва кантрабанда. На працягу апошняга месяца на граніцы канфіскавана каля 65 тысяч літраў алкаголю. За гэты ж перыяд каля 30 тысяч савецкіх грамадзян былі спынены на граніцы за спробу правозу празмернай колькасці алкаголю або іншых тавараў на продаж.

У гэтай сувязі Прэм'ер-міністр Польшчы Ян Кшыштаф Бялецкі звярнуўся да міністра ўнутраных спраў з патрабаваннем прыняць надзвычайныя меры па абмежаванню злачыннасці на савецка-польскай граніцы.

ДОЎГАЖЫХАРЫ

## ГОРКАЕ ЖЫЦЦЁ

Сто адзін год споўніўся жыхарцы вёскі Васілевічы Жлобінскага раёна Фені Астапаўне Дзямбіцкай.

Нарадзілася яна ў мнагадзетнай сям'і. Старэйшай у сям'і ёй давялося з маленства спазнаць увесь цяжар сялянскай работы.

Не абмінула гора і пазней. У трыццатыя гады яе разам з мужам і трыма малалетнімі дзецьмі ў час раскулачвання выслалі аж но на Урал. Ішла адтуль дадому многія тысячы кіламетраў.

Цяпер Феня Дзямбіцкая жыве разам з малодшай дачкой. У яе добрая памяць, яшчэ сама за сабой прыглядае. І як ні дзіўна, яна ні разу не звярталася да ўрачоў за медыцынскай дапамогай.

БЕЛАРУСЬ — МАЛДОВА

## АДКРЫТА ПРАДСТАЎНІЦТВА

Урачыстае адкрыццё пастаяннага прадстаўніцтва Беларускай ССР у Малдове адбылося 15 ліпеня ў Кішынёве. У ім прынялі ўдзел Прэм'ер-міністр Малдовы В. Мураўскі і Старшыня Савета Міністраў Беларусі В. Кебіч, які знаходзіўся ў рэспубліцы з рабочым візітам.

*"Даўно чакаю ад нашага ўрада — пачынаючы з прыняцця першай яго праграмы ў кастрычніку мінулага года — тую першую фразу, якую ён павінен быў ужо сказаць: што распрацаваная ім праграма разлічана на самазнішчэнне. Не фізічнае, а функцыянальнае знішчэнне існуючай структуры кіравання. Ён, і толькі ён, павінен урэшце ўзяць на сябе правядзенне такіх рэформ, якія б далі свабоду і гаспадарчую самастойнасць прадпрыемствам і галінам. І каб дзяржаўныя структуры ўсё ў меншай ступені ўмешваліся ў дзейнасць гаспадарчых падраздзяленняў. Але наш Кабінет міністраў гэтага ці пакуль зразумець не хоча, ці апасаецца гаварыць пра гэта адкрыта.*

*Яшчэ адна абавязковая, на мой погляд, умова выхаду з крызісу заключаецца ў тым, што праграма ўрада павінна быць зразуметая народам, ім падтрымана. У ёй адкрытым тэкстам трэба сказаць, што стратэгічны курс урада накіраваны на павышэнне кошту рабочай сілы. Гэта — пытанне прынцыповае: з таннай рабочай сілай на рынак ісці няма ніякага сэнсу. Дарагая рабочая сіла — залог тэхнічнага прагрэсу, здаровай канкурэнцыі на рынку працы".*

*А. САПРОНАЎ, народны дэпутат БССР.*

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● **У Нарвегіі будзе створана вышэйшая беларуская народная школа. Першая група студэнтаў пачне заняткі ўжо ўвосень гэтага года. Школа будзе рыхтаваць спецыялістаў па экалагічных праблемах, звязаных з ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай катастрофы.**

● **Падпісана пагадненне паміж прафсаюзамі Беларусі і Ізраіля. Іх сумесная дзейнасць будзе накіравана перш за ўсё на змякчэнне вынікаў аварыіі на Чарнобыльскай АЭС.**

● **Выканкам гарадскога Савета Мінска прыняў пастанову, паводле якой з 15 ліпеня падлеткам да 18 гадоў забараняецца знаходзіцца без бацькоў на вуліцах з 0.00 гадзін да 6.00 раніцы. За парушэнне гэтай "каменданцкай гадзіны" прадугледжаны штраф 100 рублёў.**

● **Саўгас "Саспоўскі", што ў Слонімскім раёне, наладзіў выпуск чаю сваёй маркі. Яго састаў складаюць чабор, святаяннік, маліна, мята, душыца і іншыя духмяныя травы. Акрамя звычайных уласцівасцей, такі чай мае яшчэ і лекавыя якасці.**

● **Шведскія фермеры пачалі гатаваць травяную сечку для кароў па беларускаму рэцэпту. Яны запазычылі яго на адным з буйнейшых жывёлагадоўчых комплексаў рэспублікі.**

АДПАЧЫВАЦЬ І ПРАЦАВАЦЬ — РАЗАМ

**Маладыя людзі з розных краін свету будуць працаваць гэтым летам у складзе дванаццаці інтэратрадаў на тэрыторыі нашай рэспублікі. Адзін з такіх атрадаў, у які ўвайшлі дзесяць беларускіх студэнтаў і столькі ж канадскіх хлопцаў з правінцыі Квебек, ужо працуюць у Мінску на разборцы старых будынкаў і падрыхтоўцы іх да рэстаўрацыі.**

**У культурную праграму інтэратрада ўваходзяць не толькі знаёмства з выдатнымі мясцінамі Мінска, Масквы і Ленінграда, але і шматлікія сустрэчы з аднагодкамі.**

**Пройдзе зусім мала часу, і беларускія студэнты накіруюцца ў Англію, Данію, Нарвегію, Швецыю, Францыю, Італію, Грэцыю, каб, працуючы і адпачываючы разам, лепш спазнаць адзін аднаго.**



**НА ЗДЫМКУ: у гасцях у кіраўніка інтэратрада малодшага навуковага супрацоўніка БДУ імя У. І. Леніна Алены БЯЛЯЕВАЙ (злева).**

АКТУАЛЬНАЕ Ў ПРЭСЕ

## ПА СУТНАСЦІ ІНСІНУАЦЫЙ

**Нядаўна ў Мінску быў на адпачынку Пастаянны прадстаўнік Беларускай ССР пры ААН Генадзь БУРАЎКІН. Ён даў вялікае інтэрв'ю "Народнай газеце". З адказам на адно, вельмі прынцыповае пытанне мы хацелі б пазнаёміць чытачоў "Голасу Радзімы".**

*— Генадзь Мікалаевіч, што і казаць, калектыў прадстаўніцтва нямала робіць для таго, каб дапамагчы рэспубліцы ў вырашэнні многіх пытанняў. Але ці ведаеце Вы пра тыя чуткі, якія распаўсюджваюць адпаведныя сілы наконт таго, быццам наш Пастаянны прадстаўнік, таварыш Бураўкін, толькі тое і робіць, што сустракаецца з людзьмі, якія некалі выехалі з краіны, здрадзілі свайму народу? Прабачце за прамалінейнасць, але што Вы маглі б сказаць у сувязі з гэтым?*

— Я думаю, што гэта пытанне, мабыць, перш за ўсё трэба было задаць тым, хто накіроўваў мяне ў Амерыку. Яны ведалі, каго прызначаюць на гэтую адказную пасаду. І потым — ня дрэнна было б, каб яны разабраліся і выказалі свае адносіны да ўсіх гэтых плётак, чутак, інсінуацый, якія сапраўды ў апошні час, як я пераканаўся, некаму вельмі патрэбны і актыўна распаўсюджваюцца — былі публікацыі ў "Славянских ведомостях", "Политическом собеседнике", зусім нядаўна ў газеце "7 дней". Я ў гэтым бачу, даруйце мне такую фармулёўку, своеасаблівую кампанію. Не даючы ніякіх канкрэтных фактаў, на голых эмоцыях, на чутках, на ярлыках старога пашыбу робіцца спробы паставіць пад сумненне работу нашу з эміграцыяй, работу не толькі маю, а ўсяго прадстаўніцтва, і падкінуць пры гэтым палітычныя абвінавачванні. Я не хацеў бы, паўтараю, адказваць на гэта, тым больш, што публікацыі выходзяць у нейкіх дзіўных выданнях, якія не даюць адрасоў рэдакцый, тэлефонаў, часам не называюць рэдактараў. Адзінае, што аб'ядноўвае іх, гэта тое, што ўсе яны чамусьці друкуюцца ў друкарні ЦК Кампартыі Беларусі. Няўжо паважанай друкарні не прапануюць нешта лепшае?

Калі ж гаварыць па сутнасці інсінуацый, то... Калі я ехаў у Нью-Йорк і сустракаўся з кіраўнікамі рэспублікі, мне было сказана, што адна з маіх задач — наладжванне кантактаў з беларускай эміграцыяй. І я думаю, што пытанне пастаўлена абсалютна заканамерна і правільна. Так атрымалася, што мы да гэтага часу не маем у рэспубліцы навуковага даследавання гісторыі эміграцыі. А беларуская эміграцыя, як і іншыя эміграцыі, вельмі-вельмі неадназначная і неаднастайная. Гэта розныя людзі, розныя настроі, гэта, у рэшце рэшт, розныя погляды.

Безумоўна, у эміграцыі ёсць і людзі, варожа настроены да нас. Але ж ёсць людзі, і іх большасць, якія вельмі добра ставяцца да рэспублікі, да нашай краіны. Нельга закрываць вочы і на тое, што прадстаўнікі беларускай эміграцыі вядуць даследчую работу ў галіне гісторыі літаратуры, мастацтва. Не трэба адкідаць і тое, што ёсць эмігранцкая літаратура на беларускай мове. Якая яна, якое яе месца ў развіцці беларускай культуры, — гэта ўсё трэба вызначыць спакойна, навукова. Але я перакананы, што без уключэння гэтага пласта ў нас не будзе поўнага ўяўлення пра культурныя працэсы, пра кірункі развіцця нашай гісторыі. Нам трэба гэта ведаць, а не рабіць выгляд, што гэтага няма.

Калі мы наладжваем адносіны з эмігрантамі, то пры гэтым, паверце мне, гэта я кажу з поўнай адказнасцю, мы не заводзім сяброўства з тымі, чые рукі ў крыві, мы з імі не супрацоўнічаем і не сустракаемся. Да таго ж яны і самі не пойдуць да нас, бо тыя, хто іх апякае, не ўхваляць кантактаў з намі, афіцыйнымі прадстаўнікамі Савецкай Беларусі.

Што было ў Клірлендзе на пачатку верасня мінулага года? Была 19-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, у якой прымала ўдзел вельмі шмат людзей, якія па-сапраўднаму хваліе лёс Беларусі. Упершыню там былі госці з Савецкай Беларусі. І я думаю, што гэта знамянальная падзея, выкліканая новымі працэсамі ў нашым грамадскім жыцці.

Зноў жа хачу прывесці факт. 650 тысяч беларускіх эмігрантаў, паводле амерыканскіх падлікаў, зараз жыве ў Амерыцы. Сярод іх толькі 50 тысяч, якія прыехалі пасля другой сусветнай вайны. Сярод гэтых 50 тысяч могуць быць сотні тых, хто сапраўды заплямій сваё сумленне і свае рукі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Дык што, з-за гэтай сотні будзем адкідаць больш як паўмільёна нашых землякоў, нашых суайчыннікаў, не будзем з імі супрацоўнічаць, не будзем паважаць іх добрыя пачуцці да нас?

І яшчэ. На гэтай сустрэчы прынята рэзалюцыя з 12 пунктаў. Ні ў адным няма нічога антысавецкага, накіравана супраць нас. Больш таго, калі ўжо гаварыць прама, на некаторых мітынгах у нас цяпер прымаюцца куды больш страшныя рэзалюцыі.

Да ўдзельнікаў сустрэчы звярнуўся з прывітаннем, у тым ліку вітаў і тых, хто прыехаў з Савецкага Саюза, Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Буш. Калі б гэта было фашысцкае зборышча ці шабаш, як пішуць вельмі смелыя людзі з "Славянских ведомостей", Прэзідэнт Буш ніколі б да такой сустрэчы не звярнуўся з афіцыйным прывітаннем. Таму я хацеў бы параіць маім крытыкам: трэба заўсёды ўзважваць свае вывады, свае ацэнкі і грунтаваць іх на фактах, на дакументах, на сведчаннях тых, хто сапраўды быў сведкам. Калі мы хочам цывілізавана ў свеце выглядаць, калі мы хочам з людзьмі мець нармальныя адносіны, такога ўзроўню публікацый у нас не павінна быць.

*ВОЛЬНАЯ ТРЫБУНА*

# ПЕРАБУДОВА: ГІСТАРЫЧНЫЯ ЛЁСЫ

II.

У гістарычнай перспектыве крызіс "рэальнага сацыялізму" павінен быў надысці тады, калі знікнуць умовы ўзнікнення і далейшай кансалідацыі яго як сістэмы эканамічнага і палітычнага таталітарызму. Так яно і адбылося. Як ужо было сказана, сацыялізм у СССР, а затым і ў цэлым шэрагу іншых краін узнік і развіваўся ва ўмовах працяглай, у тым ліку і ўзброенай, барацьбы з унутранай контррэвалюцыяй і найвастрэйшай доўгай канфрантацыяй з Захадам.

У ходзе Айчыннай вайны практычна былі ліквідаваны апошнія больш ці менш буйныя групы супраціўлення Савецкай уладзе. Праблемы барацьбы з "класавым ворагам" унутры краіны больш не існавала, хаця Сталін і яго акружэнне спрабавалі штучна рэаніміраваць яе, пачаўшы новую хвалю рэпрэсій у 1948—1952 гадах.

Да канца 1960-х — пачатку 1970-х гадоў Савецкі Саюз і яго саюзнікі па Варшаўскаму Дагавору забяспечылі ваенна-стратэгічны парытэт з ЗША і НАТА. Першыя праблескі палітыкі разрадкі паказалі, што ў сістэме сусветнай палітыкі набліжаецца новы этап, з якім звязана паступовае знікненне галоўных умоў захавання таталітарнага рэжыму ў СССР — ваенна-палітычнай канфрантацыі з Захадам.

Унутранае эканамічнае развіццё нашай краіны таксама падвяло да неабходнасці ажыццявіць радыкальныя эканамічныя перамены. Паскораны рост эканомікі ў першыя два-тры пасляваенныя дзесяцігоддзі прывёў да таго, што кіраванне эканомікай старымі метадамі звышжорсткага бюракратычнага цэнтралізаванага планавання ў другой палове 1970-х — пачатку 1980-х пачало даваць сур'ёзныя збоі. Замарудзіліся агульныя тэмпы эканамічнага росту, у асобных галінах адбылося зніжэнне аб'ёму вытворчасці.

Крызісныя з'явы ў эканоміцы неадкладна адбіліся ў навукова-тэхнічнай сферы. Калі ў 1950-х — пачатку 1970-х гадоў Савецкі Саюз аказаўся адным з галоўных удзельнікаў першай хвалі пасляваеннай навукова-тэхнічнай рэвалюцыі (валоданне атамнай энергіяй, выхад у космас і г. д.), то на наступным этапе навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ён апынуўся на ўзбочыне сусветнага развіцця.

Іншымі словамі, асаблівасць эканамічнага развіцця краіны заключалася ў тым, што колькасныя змяненні ў сферы вытворчасці запатрабавалі якасных змен у самой сістэме эканамічных адносін.

Крызісныя з'явы ў эканоміцы праявіліся на спажывецкім рынку. Калі раней адбывалася пастаяннае павышэнне спажывання ў разліку на душу насельніцтва і паляпшэнне якасці жыцця, то ў 1970-х гадах пачалася стагнацыя, а па некаторых паказчыках і зніжэнне ўзроўню жыцця насельніцтва. Апошняму садзейнічалі цяжкасці ў імпарце спажывецкіх тавараў, выкліканыя зніжэннем сусветных цэн на энерганосьбіты і іншую сыравіну — галоўную крыніцу савецкага экспарту.

Ва ўнутрыпалітычнай сферы першыя прыкметы крызісу таталітарнай сістэмы праявіліся яшчэ раней — у перыяд лібералізацыі, пачатай на XX з'ездзе КПСС, у росце дысідэнцтва ў асяроддзі інтэлігенцыі, першай хвалі пасляваеннай эміграцыі і г. д.

У знешнепалітычнай сферы крызіс сістэмы праявіўся ва ўзброеным падаўленні выступленняў ліберальных сіл у Венгрыі ў 1956 годзе і ў Чэхаславакіі ў 1968 годзе, у рэзкім пагаршэнні адносін з Кітаем у сярэдзіне 1960-х гадоў, у з'яўленні элементаў вялікадзяржаўнасці ў адносінах з некаторымі краінамі Азіі і Афрыкі і аслабленні ўплыву СССР у гэтых рэгіёнах, ва ўзрастаўшых цяжкасцях функцыянiравання СЭУ, нарэшце, у савецкім умяшанні ў Афганістане.

Аднак наша кіраўніцтва 1960-х — 1980-х гадоў было супраць унясення нейкіх сур'ёзных змен ва ўнутраную і знешнюю палітыку краіны. Яно адлюстроўвала інтарэсы кансерватыўнай партакратыі, якая апасалася, што любое рэфармаванне эканамічнай і палітычнай сістэмы нанясе сур'ёзны ўрон іх інтарэсам.

Гістарычная заслуга М. С. Гарбачова і яго акружэння заключалася ў тым, што ён усвядоміў усю глыбіню крызісу сістэмы сацыялізму і неабходнасць правядзення ўсеабдымных эканамічных і палітычных рэформ.

Перабудова прайшла два этапы. На першым (у асноўным 1985—1988 гады) Гарбачову і яго камандзе ўдалося нейтралізаваць супраціўленне кіруючага класа, які ўключаў у сябе партапарат, вярхі дзяржаўнай адміністрацыі, дырэктараў прадпрыемстваў, кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, прывілеяваныя вярхі навуковай і творчай інтэлігенцыі, прафсаюзаў — гэта значыць сацыяльныя групы, што аб'яднаны паняццем "наменклатура". Адначасова быў заканадаўча падрыхтаваны пераход да палітычнага і ідэалагічнага плюралізму.

Прарыў на другім этапе перабудовы (1989—1991 гады) у палітыку новых, апазіцыйных КПСС сіл, якія ўмела выкарыстаглі надышоўшае пагаршэнне унутрыэканамічнага становішча ў краіне, кінуў сур'ёзны выклік кіруючаму класу, перад якім з усёй вастрынёй паўстала пытанне, як захаваць уладу ў новых умовах.

Унутры наменклатуры адбыўся раскол. Асноўная яе частка, асабліва на ўзроўні абласцей, раёнаў, гарадоў і вёсак, імкнецца ўсяляк затармазіць і нават павярнуць назад працэс рэформ. Гэта ярка праявілася на Пленуме ЦК КПСС (май 1991 года), дзе была зроблена няўдалая спроба зняцця Гарбачова з пасады Генеральнага сакратара ЦК партыі.

Другая частка наменклатуры, да якой, у прыватнасці, адносяцца саюзны ўрад і кіраўніцтва ЦК КПСС, а таксама большасць палітычнага кіраўніцтва і ўрадаў саюзных і аўтаномных рэспублік, разумее неабходнасць перамен і падтрымлівае Гарбачова. Аднак гэта група ўяўляе меншасць кіруючага класа і зведвае націск кансерватыўных сіл.

Трэцяя частка наменклатуры, уключаючы прадстаўнікоў дзяржаўнага і партыйнага апарату, а таксама дырэктараў буйных прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў, павярнула ў бок пераходу на капіталістычны шлях развіцця і прымае актыўны ўдзел у працэсе першапачатковага накаплення капіталу — праз кааператывы, знешнегандлёвыя аперацыі, а таксама шляхам заахвочвання дзейнасці дзялкоў чорнага рынку.

Чацвёртая частка наменклатуры перайшла на пазіцыі мясцовага нацыяналізму і самкнулася з экстрэмістамі-нацыяналістамі ў Прыбалтыцы, Малдове і ў Закаўказзі.

Жорсткая барацьба паміж сабой гэтых груп наменклатуры і прывяла да найвастрэйшага эканамічнага бязладдзя, паралічу выканаўчай улады, хуткага развіцця сепаратызму і этнічнага экстрэмізму, міжнацыянальных сутыкненняў.

Эканамічнае бязладдзе ў краіне выклікана наступнымі асноўнымі прычынамі. Па-першае, была падарвана сістэма цэнтралізаванага размеркавання рэсурсаў, а прадпрыемствы атрымалі магчымасць бескантрольна павялічваць цэны на прадукцыю і пераходзіць да бартэрных здзелак. Гэта стала сур'ёзнай крыніцай узбагачэння многіх кіраўнікоў прадпрыемстваў.

Па-другое, ліквідацыя манаполіі замежнага гандлю прывяла да асядання на рахунках і ў кішэнях кіраўнікоў некаторых прадпрыемстваў, што вядуць замежны гандаль, дзесяткаў мільёнаў у цвёрдай валюце.

Па-трэцяе, непрадуманая знешнегандлёвая палітыка прывяла да разбалансавання гандлю з былымі еўрапейскімі сацыялістычнымі краінамі.

Па-чацвёртае, падрыў старой эканамічнай сістэмы прывёў да падзення дысцыпліны вытворчасці і ўзаемных паставак, што прывяло да агульнага зніжэння аб'ёму вытворчасці.

Спекулятыўныя і неакапіталістычныя элементы, у значнай частцы сканцэнтраваныя ў так званых "кааператывах", штучна ўскладняюць хаос на спажывецкім рынку.

Іншымі словамі, эканамічны крызіс у краіне ў выніку выкліканы не столькі аб'ектыўнымі цяжкасцямі пераходнага перыяду да рыначнай эканомікі, колькі суб'ектыўнымі інтарэсамі часткі кіруючага класа.

У гэтых умовах палітыка Гарбачова, накіраваная на прымірэнне варагуючых інтарэсаў і балансаванне паміж рознымі сіламі, прывяла толькі да часковай і часовай стабілізацыі становішча.

Толькі дакладная дэмаркацыя і перагрупоўка палітычных сіл на базе размежавання ў КПСС зможа закласці рацыянальныя асновы вываду краіны з навязанага ёй наменклатурай эканамічнага і палітычнага крызісу.

**Рыгор КАТОЎСКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

*ПАТРЭБНЫ СКААРДЫНАВАНЫЯ ДЗЕЯННІ*

# ДЗВІНА Ў НАС АДНА

Збор матэрыялаў для міжрэспубліканскай канферэнцыі "Заходняя Дзвіна", якая пройдзе ў кастрычніку гэтага года ў Даўгаўпілсе, вядуць энтузіясты з Расіі, Беларусі і Латвіі.

Студэнты і вучоныя, мастакі і філолагі з трох рэспублік знайшлі, што называецца, адзін аднаго даўно, яшчэ ў перыяд кампаніі супраць будаўніцтва ГЭС паблізу Даўгаўпілса, якая нанесла б непапраўны і ў многім непрадказальны ўрон усяму Прыдзвінню. Іменна тады і нарадзілася ідэя прайсці на байдарках ад вытокаў Дзвіны да Рыгі. Экалагічная экспедыцыя праводзіцца ў тры этапы: у 1989 годзе быў абследаваны ўчастак ад пасёлка Шышова Цвярской вобласці, у мінулым — да Віцебска. Цяпер экспедыцыя займаецца даследаваннем ракі ў раёнах Полацка, Навапалацка, Верхнядзвінска і Даўгаўпілса.

— Для латышоў, як і для беларусаў і рускіх, Даўгава заўсёды была не проста ракой, а сувязным звяном паміж пакаленнямі, — гаворыць кіраўнік экспедыцыі, выкладчык адной з рыжскіх школ Петэрыс Полякс. — У нашай рэспубліцы цяпер распрацоўваецца спецыяльная нацыянальная праграма, накіраваная на абарону, захаванне і адраджэнне Заходняй Дзвіны. Але каб захаваць раку і для латышоў, і для беларусаў, і для рускіх, патрэбны скаардынаваныя дзеянні.

Пакуль жа змываюцца з палёў у Дзвіну — Даўгаву пестыцыды, гербіцыды і мінеральныя рэчывы, вялікімі і маленькімі ручайкамі сцякаюць неачышчаныя сцёкі і нафтапрадукты. У Полацку ўжо які год забаронена купацца ў Дзвіне. Аварыя на вытворчым аб'яднанні "Палімір", у выніку якой вылілася некалькі тон сінільнай кіслаты, вытравіла практычна ўсю рыбу на ўчастку ад Навапалацка да Даўгаўпілса. Удзельнікі экалагічнай экспедыцыі ўпэўнены, што, калі ў бліжэйшы час не аб'яднаць намаганні ўсіх тых, хто жыве на берагах Заходняй Дзвіны, можа адбыцца непапраўнае — рака ператворыцца ў сцёкавую канаву.

**С. НІКАНОРАЎ.**

## МЁД З ВАЙНЫ

Амаль усю вёску Зазер'е паклікаў на чай пенсіянер з Рагачова Кавалёў. Пілі яго з мёдам, які Іван Сямёнавіч у гляку ў 1942 годзе закапаў на сваім агародзе, ратуючы ад фашыстаў скарб. Потым яго сям'я пайшла ў бежанцы, а пасля вызвалення Рагачоўшчыны Іван Сямёнавіч ваяваў на розных франтах. Вярнуўшыся дадому, неаднойчы ўспамінаў пра схаваны мёд. Але знайсці яго не мог: забыўся месца, дзе закапаў.

Корпаючыся нядаўна ў агародзе, выпадкова натрапіў на збанок. Мёд за паўстагоддзя не згубіў сваёй якасці.

*РАЗВІТАЛЬНЫ БАЛЬ ДЛЯ ДЗЯТВЫ*






**Развітальным балем завяршылася цудоўная і бясклапотная пара для малых дзіцячага сада "Бярозка" ў Жодзіне. Крыху сумуюць толькі дарослыя, выпраўляючы сваіх выхаванцаў у школу. Дзеці ж з нецярпеннем чакаюць моманту, калі ўсядуцца за парты. А таму ім на свяце было весела.**

**"Бывай, дзіцячы сад, добры дзень, школа! — такія словы ў гэтыя дні прагучалі ва ўсіх дзіцячых садах рэспублікі.**

**НА ЗДЫМКАХ: у дзіцячым садзе — баль; развітваецца з садком і Воленька АЛЯШКЕВІЧ.**

**Фота В. ЦЭЗАРОЎСКАГА.**




57

А калі ты застанешся, дык я пайду і заяўлю ў паліцыю пра тое, што ты толькі што зьбіраўся скончыць жыццё самагубствам... Ты ў маіх руках! — Ён разсьмяяўся.

— Ну што ж, — усьмяхнуўся таксама Тугоўскі, — спрабую цябе паслухаць. Спрабую яшчэ атрымаць стыпэндыю і стаць студэнтам. Паглядзём, што з гэтага будзе... Зробім, як казалі бальшавікі, "перадышку".

— Будзем жыць, — зазначыў "айцец" Кірыла. — Пераедзеш на кватэру, станеш чалавекам, а не такім брадзягай. Станеш і думаць зусім інакш. Я цябе пазнаёмлю з паненкай. Дзіўная паненка, каб ты ведаў... Нядаўна толькі прыехала. Усе студэнты перасталі з-за яе вучыцца, далібог. Толькі й ходзяць да яе ў Студэнцкі дом фліртаваць. Яна якраз вельмі хоча з табой пазнаёміцца. Яна выгане з цябе ўсякую нэўрастэнію! Вылеча з гарантыяй. У такіх выпадках, як у цябе, калі ня хочацца ні піць, ні есьць, адзінае лякарства — жанчына... Захочаш і піць, і есьць...

## VI

Тугоўскі ня скончыў жыцьця самагубствам. Але сваей "Споведзі самагубцы. Запіскі для ўсіх і ні для каго" ён не спаліў. Ён толькі схаваў яе далёка, глыбока ў папку разам з сваімі дакумэнтамі, магчыма, ня верычы, што стыпэндыя і унівэрсітэт могуць вярнуць яго да жыцьця. Ён чуў поўны ўпадак сіл, чуў, што тэорыя астральнага чалавека аб "роджаных пад Сатурнам" не выпадкова апанавала ім, не зацікавіла яго, як жарт, але глыбока ўвайшла ў яго псыхіку і кіруе яго думаньнем, яго сьветаглядам. Кожнага чалавека, якога ён

58

спатыкаў на вуліцы, ён зараз жа стараўся падвесьці пад астральную тэорыю, пытаючы, пад якой зоркай гэты чалавек радзіўся. Яму было цікава праверыць тэорыю на жыцьцёвых фактах. І цяпер яго ўласнае жыцьцё стала ня больш, як толькі праверкай тэорыі. Ён згубіў ужо тую непасрэднасьць пачуцьцяў, тую жывасьць адчуваньняў, якая бывае ў жывога, зацікаўленага жыцьцём чалавека; другімі словамі, ён глядзеў на жыцьцё, як дасьледчык глядзіць на марскую сьвінку, робячы над ей розныя аперацыі. Яго не цікавіць самая сьвінка, яе пачуцьці, радасьці й болі, а цікавіць, як адпраўляюцца функцыі яе органаў згодна яго тэорыі.

"Што ж, — казаў Тугоўскі. — Я магу яшчэ жыць. Паглядзём, ці спраўдзіцца тэорыя аб роджаных пад Сатурнам." І ён адлажыў часова набок увесь сум "тэорыі" і стаў жыць. Кірыла Бурачэўскі "ўвадзіў" яго ў грамадзянства. За тэтыя часы свайго жыцьця ў альтане Тугоўскі адвык ад людзей і таму трымаў сябе вельмі няпэўна ў Студэнцкім доме: яму здавалася, што рукі ў яго былі задоўгія, ногі вельмі крывыя і сьмешныя, й сам ён паходзіў на коміка, прывезенага з вёскі...

— Ну й шынэль у цябе, — сьмяяўся востратвары Малевіч, падмятаючы падлогу Студэнцкага дому...

— Адразу відаць, што з Азіі прыехаў, — засьмяяліся некалькі студэнтаў.

Тугоўскі пачырванеў і са страхам глянуў на Вярхоўскую, сядзеўшую на крэсьле, акружаную навакол студэнтамі: ён пужаўся, што яна засьмяецца сваім звонкім сьмехам. Мужчыну цяжэй усяго перанясьці насьмешкі жанчыны. Але яна не засьмяялася. Бачучы, што ён ужо зусім зьмяшаўся і пачырванеў, яна, быццам дакараючы студэнтаў,

59

наўмысьля громка запытала, каб перамяніць размову:

— А скажыце, грамадзянін Тугоўскі, на які факультэт вы думаеце паступіць?

Гэта пытаньне адразу дало яму тэму і падняло яго паўнасьць. Ён глянуў на яе з удзячнасьцяй і ўспомніў, што з ім здарыўся такі самы выпадак, як з адным брадзягай, аб якім ён дзесьці чытаў. Два брадзягі йшлі па вуліцы нейкага ангельскага места, гатовыя напасьць на першага прахожага. Раптам з-за кута вышла нейкая дама з карзінай і стукнулася з брадзягай настолькі моцна, што той ледзь утрымаўся на нагах.

— Выбачайце, — прамовіла дама. Брадзяга зьняў капялюш і застаўся нерухомым на вуліцы.

— Што з табой? — захахатаў яго сябра. — Ты ніколі нікому не здымаў капялюша...

— Ня ў тым справа, — адказаў брадзяга, — а ў тым, што яна мне, брадзязе, сказала "выбачайце". Разумееш? Яна й мяне палічыла за чалавека. Вось гэта ў мяне стукнула, а не яе карзіна...

Успомніўшы гэта, Тугоўскі з задавальненьнем глянуў на поўную і прыгожую паненку. Яна ў ім пабачыла чалавека... Мілая, нявымоўна мілая паненка... Яна не засьмяялася зь яго так, што ён, напэўна, больш не паказаўся б у Студэнцкім доме. Яна пачала зь ім гутарку, нягледзячы на тое, што навокал сустракала насьмешкі і здзіўленьне праходзіўшых па балкону чужаземных студэнтаў. Яе, модна апранутую, прыгожую і пэўную ў сваіх рухах, лічылі запраўднай эўропэйкай. Але яго — у даўгой шынэлі, у фрэнчы, у шапцы з бліскучым казырком?.. Яго маглі палічыць толькі за брадзягу... Між тым гэта эўропэйка нісколькі не адцяняла свае перавагі над ім, — наадварот, яна

60

гутарыла зь ім, як роўная з роўным. Размова лёгка пераскочыла на літэратуру, у якой шмат тэхнікаў і мэдыкаў былі прафанамі, і ім прыйшлося замаўчаць, потым перайшла на філязофію. Студэнты пачалі расходзіцца.

— Глупства пляцеш, — казаў Малевіч, адходзячы з групай тэхнікаў. — Ну, што ж, філязофія ёсьць навука аб ні для кога не абавязковых ісьцінах.

— Можаце ісьці, — адбіваў удар Тугоўскі...

— Правідлова, правідлова, — казала Вярхоўская, — давайце пагутарым мы з вамі. Нам з вамі цікава.

Яны засталіся адны гутарыць і перайшлі ў залю. Тугоўскі, як яшчэ не сябра Студэнцкага дома, гатоў быў сесьць куды-небудзь у куток, каб іх нíхто не бачыў-бы, але яны бачылі ўсіх. Вярхоўская-ж сьмела заняла ў зале самае цэнтральнае мейсца, на мяккім круглым дыване, йшоўшым навокал стаўба, убітага ў падлогу і падымаўшагася аж да столі; нескалькі студэнтаў ўва фраках пасунуліся, каб даць мейсца Тугоўскаму ўва фрэнчы. Тугоўскі застаўся адзін з прыгожай паненкай, пахі ад якой шчакаталі яго нэрвы, і цела якой датыкалася да яго. Ён сядзеў, як на іголках. Ён гутарыў дрыжачым голасам, але на твары і ў вачох яго сьвяцілася задавальненьне. Доўга, больш поўгадзіны, ён разьвіваў перад ёй сваю тэорыю "ўроджанных пад Сатурнам". Каб паказаць сябе вучоным, ён ужываў розныя астранамічныя тэрміны і назовы зор. Яна слухала яго ўважна, час ад часу паварочаючы свой прыгожы твар у яго бок, асьвячаючы яго пытлівым сінім вагнём сваіх вачоў. Яна горда запратэставала, як толькі ён скончыў.

61

— Ваша тэорыя, — прамовіла яна, канчаючы свой пратэст, — здаецца мне тэорыяй чалавека, які чуе сябе страшэнна змучаным, кінуў вёслы і думае плыць па цячэньню... "Няхай будзе так, як будзе", — у гэтым ваша тэорыя. У гэтым істота й фаталізма. А гэта не правідлова... Трэба жыць проціў цячэньня. "Проціў цячэньня можа толькі жывое паплыць", у Багдановіча.

Тугоўскі ўспомніў пра Максіма Багдановіча. Размова перайшла на яго жыцьцё і выдатныя творы.

— Мне здаецца, калі ўважна ўдумацца ў яго жыцьцё, яно было нешчасьлівае, — сказаў на разьвітаньне Тугоўскі. — І я думаю, што ён, напэўна, радзіўся пад Сатурнам...

— У вас усе радзіліся, напэўна, пад Сатурнам.

— Чаму?.. Не... Талстой, напрыклад, радзіўся пад Сонцам. І таму жыцьцё ў яго было запраўды сонечнае. А вось Дастаеўскі радзіўся пад Сатурнам. І таму жыцьцё яго было запраўды жахлівае. Катарга, потым падучая хвароба, матэрыяльныя турботы. Што можа быць горш за гэта, скажыце?..

— Цікава, пад якой плянэтай я радзілася? — засьмяялася звонка Вярхоўская.

— Скажыце мне ваш месяц і год нараджэньня, — сказаў ён, — і вам я зараз дам адказ.

— Я радзілася... — Яна спынілася, пільна гледзячы на Тугоўскага, какетліва схіляючы галаву, — у ліпені месяцы... Году... А вось году якраз я вам не скажу. — Яна зноў засьмяялася.

— Чаму?..

— Таму што вы будзеце вельмі старым, калі ўсё будзеце ведаць.

Яны расталіся задаволёныя. У абодвах захавалася ад першага спатканьня мілае ўражаньне.

62

Тугоўскі быў на сёмым небе. Ён усю дарогу чуў яе пах, ён бачыў перад сабой дзіўныя глыбокія сінія вочы... Ён запраўды пачуў, што пачынае ажываць і нейкая бадзёрасьць ахоплівае яго... У самым выхадзе ў Студэнцкім доме ён спаткаў Кірыла.

— Ну як першае ўражаньне?

— Ой, "айцец" Кірыла, — надзвычайнае... Гэта прыгожая жанчына мае яшчэ мазгі Саламона. Ведаеш, такую бы пацалаваць раз і памёрць.

— Ого, ужо інакш гутарыш. Я казаў, што дам добрае лякарства. Ну што, вылеча?

— Так, брат. Сёньня я першы раз пакаштаваў гэтае лякарства, адну каплю толькі, але думаю, што вылеча.

— Ну вось... Я так думаў. Цяпер-бы толькі як-небудзь яе заманунь да нас на кватэру, каб бліжэй з ёй пазнаёміцца... Інтымна, хе-хе, — засьмяяўся Кірыла.

— Імяніны бы якія-небудзь улаштаваць, ці што, і яе запрасіць, — засьмяяўся таксама Тугоўскі.

— Ага... Ідэя. Праз тыдзень я вытрымаю першы дзяржаўны іспыт і буду інжынерам-кандыдатам. Вось па гэтаму выпадку можна будзе склікаць каго-небудзь з беларусаў на ўрачыстасьць і яе запрасіць, хе, хе...

— Лоўка, "айцец" Кірыла, — пляснуў у далоні Тугоўскі, — далібог, лоўка. Будзем вітаць першага беларуса з чынам інжынера і паненку зацягнем у свае сеткі. Лоўка. Прыемнае, як кажуць, з карысным... Недарма ты ў нас інжынер.

Працяг.
Пачатак у №№ 23 — 29.

63

— Толькі ўгавор. Улаштаваць урачыстасьць прыдзецца табе, бо я зараз заняты іспытамі.

— Мне? — Тугоўскі паморшчыўся. — Няма ў мяне, брат, арганізатоўскіх талянтаў. Я гэтым ніколі не займаўся. А першы блін заўсёды комам.

— Нічога... Гарэлкі й закускі толькі болей — і ўся арганізацыя.

— А можа быць, яна гарэлкі не п'е? — запытаў Тугоўскі, не жадаючы здавацца.

— Ну... тады віна... Словам, мы аб гэтым пагутарым, што купіць... А цяпер бывай... — Ён працягнуў руку Тугоўскаму на разьвітаньне. — Вельмі добра будзе, — сказаў ён у дзьвярох. — Мы якраз улаштуем і ўрачыстасьць з прыгоды атрыманьня табой стыпэндыі.

Тугоўскі нічога не адказаў. Ён вясёла пайшоў дахаты. Ён пачынаў думаць аб жыцьці, закідываючы думкі аб самагубстве.

## VII

Кірыла жыў на акраіне Прагі, у рабочым раёне, так званым Кошыжэ, у маленькім пакойчыку. Яго гаспадар пан Бэран, кравец па прафесіі, быў халасцяком і жыў толькі са сваей прэстарэлай маткай. Дзеля таго, што матка не магла ўжо нічога ні варыць, ні гаспадарыць, ледзь шаўкала сваім бяззубым ротам, ён рабіў усё сам і ў гэтым напрамку выказваў надзвычайныя здольнасьці. Ён сам пёк булкі, ён сам смажыў мяса, сам падмятаў і прыбіраў пакой Кірылы. Пан Бэран быў высокі, стройны чалавек з чырвоным тварам, рудымі, уючыміся валасамі, як у барана, і з фіалетавым носам, што сьведчыла аб яго нямалым заляцаньні да алкаголю. Аб сваім каханьні да алкаголю

64

ён казаў, што навучыўся піць падчас вайны, на сербскім фронце, дзе як жаўнер аўстрыйскай арміі быў ранены, папаў у палон — і толькі нядаўна вярнуўся ў Чэхію. Было гэта так ці не — невядома, але факт каханьня існаваў і не было амаль што нядзелі, каб яны ня выпівалі з "айцом" Кірылам. Пан Бэран быў інвалідам. Сьветавая вайна выбіла яго з каляі жыцьця і можа быць таму, што ў яго жыцьці нічога больш не заставалася, апрача чаканьня свайго канца, ён любіў маладосьць, любіў маладых, бадзёрых студэнтаў і іх забавы, любіў і сам яшчэ прыняць у іх удзел. Хто бачыў сьмерць, той умее кахаць жыцьцё. Пан Бэран умеў кахаць жыцьцё, нават у самых маленькіх яго праявах, і таму ня дзіва, што ён з радасьцей згадзіўся прыняць удзел у арганізацыі "сьвята", як казаў яму "айцец" Кірыла. У назначаную нядзелю пакой Кірылы блішчэў ад чыстаты, ад белага абруса на стале, ад розных каробак кансерваў, ад чарак і бакалаў.

Са сьмехам запраўднага гастранома пан Бэран наставіў розных запечаных каўбасаў, цяляціны, вінегрэту, а самае галоўнае, дымяўшыхся парам кнэдлікаў з капустай. "Кнэдлікі" — гэта першая і апошняя слова чэскай кухні. Яны падаюцца заўсёды ў будныя дні і ў сьвята, у беднага і ў багатага, калі чалавек родзіцца й калі памірае. "Кнэдлікі" — гэта звычайнае постнае цеста з пшанічнай мукі, замяняе чэху хлеб, бо звычайна ён за палудням хлеба не ўжывае (за выняткам так званых "гоўсэк" — булак, пасыпаных солей). "Кнэдлікі" служаць як прыправа да мяса, як асобнае блюда з соўсам. Нарэшце, аблітыя чым-небудзь салодкім, — як дэсэрт.

